# Рунь

БЕЛАРУСКАЕ ЛІТЭРАТУРЫ І МАСТАЦТВА.

Выходзіць у Менску штотыдзень.

Цана сшытку 5 м.
Падпіска на 1 м-ц з перасылкай 20 м.
На 3 м-цы 60 м.

Год выд. I.
№ 3
16 мая 1920 году.

Рэдакцыя: Кашарская 10, кв. 5. Адчынена 10—11 г. раніцы.
Адміністрацыя: вул. Міцкевіча, «Беларускі Дом». Адчынена 9—3 г. удзень.
Рукапісы назад не выдаюцца.
Аплата прынятых рукапісаў і рысункаў залежыць ад рэдакцыі.

## Песьні на ваяцкі лад.

**(Паводле кародн. мэледыяў).**

Перадрук забараняецца.

### Ой, вяду бяду...

Ой, вяду бяду, а бяда мяне
Водзе вечным сьледам;
Гэтак ходзім мы за адным адно,
Як той дзед за дзедам.

Гэй паклічу сход, ды зьбяру народ,
Ды зьбяру жаўнераў.—
Хай ідуць вайной на маю бяду,
На ліхога зьвера.

На мой кліч, на сход гмін народу шло,
Шоў ваяк з ваякам,
Кожны сьмел, ахвоч, бье адвага з воч,
Поле услалі макам.

Як той лес, жаўнер ля жаўнера стаў,
Зброя ў сонцы йграе;
Зварухнуўся полк, а за ім—другі,
Толькі сьцяг міргае.

Мах за шагам шаг, войско йдзе ў паход,
Быццам тая хмура,
Аж дрыжыць зямля, як ваякі йдуць
Ды пяюць, як бура.

Гэй, выходзь, бяда, гэй выходзь хто нам
Непрыяцель—вораг!
Пачастуем так, што папомніш век,
Ды сатром на порах.

Знай, жаўнеры мы выйшлі не на жарт,
Біцца, ваяваці,
Знай, хавалі нас поле, бор і лог
Беларусі-маці.

### Гэй, паехау сын Даніла.

Гэй, паехаў сын Даніла
Ваяваць на вайну,
Ад нападу, ад няволі
Бараніць старану.

Сына маці выпраўляла,
Крыж на памяць дала,
Каб матулю родну помніў,
Як паедзе з сяла.

А дзяўчына, міла сэрцу
Правяла за сяло
І дала на памяць персьцень,
Каб у бітвах вязло.

Так паехаў сын Даніла
Сам сабой на вайну,
Азірнуўся на хаціну
Ды змахнуў сьлязіну.

Ехаў поле і другое,
Трэцьце поле дасьціг,
Дзе сабраліся жаўнеры
З сёл і весак усіх.

І пайшлі яны паходам,
Дружна, сьмела пайшлі,
Каб вон злыбяду прагнаці
З Беларускай зямлі.

Добра ўсе там ваявалі;
Уміралі ў баю,
А найлепш Даніла біўся
За айчызну сваю.

Хто йшоў ззаду, а хто збоку
Азіраўся назад,
А Даніла ўсюды ўперад
Выступаці быў рад.

І ручыла, шанцавала
У бітвах цяжкіх яму,
Ажно вораг напужаны
Дзіваваўся таму.

Год мінуў, як ваяваці
Шоў Даніла з сяла,
А ўжо слава па ўсім сьвеце
Аб ім громка ішла.

Як ачысьцілі ваякі
Край ад ворага свой,
Важна ехалі дадому,
Як тых пшчол буйны рой.

А наперадзе ўсіх едзе
Наш Даніла з вайны,
Шабля бліскае пры боку,
Конь пад ім буланы.

Ен вязе ўсім падарункі:
Маці срэбны абраз,
А сваей дзяўчыне мілай
Доўгі пацерак зьвяз.

**Янка Купала.**

# Лес шуміць.

**Сцэнічны абразок у 2-х актах з часоў паншчыны.**

*(Паводле „Палескай легэнды" У. Короленкі).*

Інсцэнізацыя Ф. Аляхновіча.

*(Гл. № 2).*

## АКТ II.

У хаце Рамана. За вакном вые бура.

ЗЬЯВА І-ая.

Дзіця, пасьля Аксана, пасьля Пан *(за сцэнай).*

Дзіця *(будзіцца і крычыць).* Мама! Мамка, дзе вы? я баюся!

Аксана *(выходзіць з бакоукі).* Ціха! Чаго ты? ня крычы...

Дзіця. Чаму мамкі тут ня было? Я баюся адзін спаць...

Аксана. Ня бойся...

Дзіця *(падыходзіць да Аксаны, ціха).* Мамка, ці тамака ў нас пан начуе?

Аксана *(уздыхаючы).* Але.

Дзіця *(пасьля паузы).* Ці наш пан добры, мамка?

Аксана. Ня дуры галавы... Усе паны аднальковые, усе яны добрые.

Дзіця. А я яго баюся.

Аксана. Пана, дзетка, трэба баяцца, на тое-ж ён і пан. *(Сьлезы на вачох).*

Дзіця. Чаму, як пан прыедзе, вы, мамка, заўсёды плачаце? Ці пан нас крыўдзіць?

Аксана. Адчапіся! Пара табе ўжо спаць. Лепш гавары пацеры, бо мусі яшчэ не маліўся.

Дзіця. Калі я сам не магу, мамка, зьбіваюся. Вы памажэце!

Аксана. Ну добра, будзем разам гаварыць пацеры. Укленч... Вось гэтак... Цяпер перажагнайся: ў імя Айца... і Сына... і Сьвятога Духа—амэн...

Дзіця *(жагнаецца і паутарае за ею).* У імя Айца—і Сына—і Сьвятога Духа—амэн...

Аксана. Айчэ наш, каторы ёсьць у небе, сьвяціся імя Тваё, будзь воля Твая... як на небе так і на зямлі...

Дзіця. *(злажыушы рукі, паутарае),* Айчэ наш, каторы ёсьць у небе... Сьвяціся імя Тваё, будзь воля Твая...

Пан *(кліча за сцэнай).* Аксана! Аксана!..

Аксана. Іду, панок, іду! *(выходзіць).*

Дзіця. Мамка! вы скора прыходзьце!..

ЗЬЯВА 2-ая.

Дзіця і Раман з Апанасам *(уваходзяць).*

Апанас. Даяжджачые ўжо пайшлі з дзедам на балото. Трэба хутка ўсё канчаць, каб ты другой дарогай пасьпеў на балото раней за панскіх даяжджачых. Тады ўсяк будзе ведаць, што ты на балоце быў і ніхто ня ў чым вінаваціць цябе пасьмее... Але дзе-ж ён?

Раман *(паказвае на бакоуку).* Ен там... сьпіць... *(глядзіць праз шчэліну).* О, праклятый! *(бяжыць у камору, за ім Апанас, за сцэнай чутно тузаніну. Першая выбягае з разьвеяушыміся валасамі Аксана, неузабаве за ей Апанас з Раманам цягнуць Пана).*

ЗЬЯВА 3-ая.

Раман, Апанас, Пан, Аксана, Дзіця.

Раман *(крэпка трымаючы Пана за рукі).* Аксана! вяроўкі!..

Аксана *(дае вяроукі).*

Пан *(хочучы вырвацца).* Ой, пусьці, Раман! Гэтак ты мае дабро помніш?

Раман *(вяжучы з Апанасам Пана).* Помню я, варожы пане, тваё дабро і да мяне і да мае жонкі. Вось-жа я табе цяпер за дабро заплачу...

Пан. Заступіся, Апанас, мой верны слуга! То-ж я любіў цябе, як роднага сына!

Апанас. Любіў ты мяне так, як палка любіць плечы, а цяпер так любіш, як плечы палку.

Пан *(да Аксаны).* Заступіся ты, Аксана, у цябе сэрцо добрае!

Аксана *(пляснуушы рукамі).* То-ж я цябе, пане, прасіла, пад нагамі качалася, пашкадуй маю красу, не пагань мяне. А ты-ж не пашкадавау мяне, а цяпер сам просіш!

Пан. Пусьцеце! За мяне вы ўсе пагінеце з катавай рукі...

Апанас. Не бядуй аб нас, пане! Раман будзе на балоце раней за тваіх даяжджачых, а я па тваей міласьці адзін на сьвеце, мне пра сваю галаву думаць нядоўга. Закіну стрэльбу за плечы ды пайду сабе ў лес... Не бядуй!.. Гэй, падымай, Ромусь, пана, вынесем яго міласьць на дожджык...

Пан. Пусьцеце, хамы, бо здохнеце пад канчукамі.

Раман. Не дачакаешся!

Апанас. Ты раней здохнеш, дык гэтага не пабачыш. *(выходзяць).*

ЗЬЯВА 4-ая.

Аксана і Дзіця.

Аксана *(падаючы на лаву).* Божа мой! Божа мой!.. *(Закрывае вочы рукамі. Пауза).*

Дзіця. Мамка!

Аксана. *(устрахнуушыся).* Ты чаму ня сьпіш?.. Сьпі!..

Дзіця. Я не магу спаць. Я баюся.

Аксана. Ня бойся. Сьпі!

Дзіця. Мамачка! А куды гэта тата з Апанасам пана пацягнулі?

Аксана *(з злосьцю).* Нікуды. Ты гэта прысьніў.

Дзіця. Мамка! дык-жа я яшчэ ня спаў, я ўсё бачыў. Я бачыў, як татка з Апанасам вязалі пана...

Аксана. Сьпі, а то бізуном дастанеш. *(Пауза).*

Дзіця. Чуеце, мамка, нехта панскага каня адвязаў... Во, захроп конь і пусьціўся ў лес... Вось ужо і тупат заціхае...

Аксана. Сьпі, дзетка, сьпі! *(За сцэнай чуваць стогн).*

Дзіця. Мамка-галубка. А хто-ж гэта там у лесе стогне? *(Бяжыць да Аксаны).*

Аксана (*туліць да сябе хлопчыка*). Сьпі, нічога... Гэта так... Лес шуміць... (*Пауза. Здалек чуваць стрэл*).

Дзіця. Мамка! А хто-ж гэта са стрэльбы страляе?

Аксана. Маўчы, маўчы, дзетка,—гэта гром Божы загрымеў па лесе. (*Плача і да сябе туліць дзіця*). Лес шуміць дзетачка, лес шуміць...

### ЗЬЯВА 5-ая.

Ты е-ж і Апанас (*уваходзіць*).

Аксана (*ускочыушы*). Ужо?

Апанас. Ужо!

Аксана (*пляснуушы рукамі*). Божанька ты мой! Што-ж цяпер будзе?

Апанас. За мужыка свайго ня бойся. Раман ужо пайшоу на балото. Яго хата з краю, ён нічога ня знае... Адказ за ўсё я нясу... Ніхто нічога ня ведае... Скажуць, што я забіў пана—дый вось усё!

Аксана. А куды-ж ты цяпер падзенешся?

Апанас. Не бядуй, Аксана! Што мне!.. (*уздыхаючы*). Я адзін на сьвеце, мне не бяда, пайду у лес... Набяру рухавых хлопцаў ды будзем гуляць... З лесу пачнем выходзіць уночы на вялікую дарогу, ды заглядваць у панскіе сядзібы. Такі відаць казаку лёс з роду прызначаны: бацькі гайдамачылі й яму тое самае на долю прыйшлося. Як Рамана ня будзе дома, прыду сюды ў гэту хату да цябе, Аксана!.. Ах Аксана! Цябе па волі панскай поп з Раманам акруціў, ну гэтакі лёс мусі! Ніхто таго ня ведаў, што у мяне было на сэрцы, як я бачыў, як пан над табой пацяшаўся, а пасьля загадаў Раману з табой ажаніцца... Гэй, Аксана! ня раз я, як здурэлы, ляцеў у лес і лобам біўся аб дрэво, каб гэтак заглушыць боль сэрца свайго... Гэй, ніхто гэтага ня ведаў, як я ўжо ня раз хапаў стрэльбу з пляча і з-за куста цэліўся ў галаву панаву. Гэй Аксана! Ніхто гэтага ня бачыў ды ня ведаў, колькі я ночаў бязсонных валяўся на сваім берлагу, кусаючы рукі ад сардэчнага болю, скрыгочучы зубамі, моў шалёны сабака ды долю сваю праклінаючы.. Гэй, Аксана!.. Вось цяпер толькі мне на душы палягчэла, як я нашага ворага паклаў стрэльбаю ў сырую зямлю.

Аксана (*кладзе яму рукі на плечы*). Бедны ты, саколік мой! бедны ты, мой любы, Апанас!

Апанас. Адна ты ў мяне. Аксана-галубка, адна ты ў мяне на ўсенькім сьвеце!.. Мо я скора ўжо згіну прападу, але за ўсе мае мукі нагародай будзе, сёньняшняя ноч... з табой, Аксана, галубка ядыная мая!

Аксана (*з любоую*). Апанас!..

Апанас. Хадзем, Аксана! Панскіе даяжджачые, а з імі Раман ды дзед ня хутка вернуцца... Мы маемо ўсю ноч... Ноч радасьці-каханьня!.. першую і апошнюю нашу ноч... Нам грымот буры шлюб даваў, ламаўшаеся гальлё сваім трэскам пеяло нам вясельную песьню, а сьлёзы дажджу напаўнялі вясельные чары. Сёньня наш шлюб, Аксана, і сёньня наша першая ноч. А заўтра ледзь золак—у сьвет шырокі, ў глухі лес-бор, дзе сухі мох будзе маім пашлюбным ложам, а стрэльба вернаю жонкай маей... Хадзем, Акеана!

Аксана (*бязвольна*). Апанас... (*ідуць у бакоуку налева*).

### ЗЬЯВА 6-ая.

Дзіця (*адно будзіцца*). Мамка! Мамачка! (*Плача*). Мне страшна. Мама! (*Бура стогне*). Ой, мамка! Лес шуміць, я баюся... (*Ціха плача, седзячы на ложку*).

### ЗЬЯВА 7-ая.

Дзіця і Дзед (*уваходзіць мокры ад дажджу*).

Дзед. Вось як... эгэ... цемра, дождж... заблудзілі... У лесе труп пана... даяжджачые знайшлі... Вось як... эгэ... няшчасьце будзе. Я так і думаў, так і ведаў...

Дзіця (*пабачыушы дзеда*). Дзеду, вы ужо прышлі?

Дзед. А прыйшоў, каток, вярнуўся... З панскімі даяжджачымі ў лесе заблудзіу і вярнуўся —эгэ... а ты сьпі.

Дзіця. Дзеду! мне прысьніўся страшны сон: лясун, зусім такі, як ты казаў, валасы як сухая амяла, нос як здаравенны сук, схапіў мяне і цягнуў у лясны гушчар. Я пачаў крычаць ды прачхнуўся.

Дзед. Ну а цяпер сьпі! Уночы трэба спаць. Усе ўночы сьпяць: і птушка, і навет травіца, толькі злые людзі ня сьпяць. Дык ты сьпі!

Дзіця. Дзеду! калі я не магу... Мне боязна... Лес шуміць.

Дзед. Заўсёды як бура, дык і лес шуміць. Хай шуміць. На тое ён лес, каб шумеў.

Дзіця (*прыслухоуваючыся*). Чуеце, дзеду? у бакоўцы шорхат... Чуеце?

Дзед. Гальлё за вакном шарахціць... Не палохайся, сьпі...

Дзіця (*кладзецца і маучыць*).

Дзед (*да сябе*). Ах, Божа, Божа! Грахі.. Грахі... Па траве сочыцца сьвежая чалавечая кроў... Дожджык лье, кроў замывае... Эх-хэ! Зашумеў лес, загудзеў, ажно дужые дрэвы трашчаць... (*Распранаецца і узлезае на печ, мармычучы пацеры*). Айчэ наш, каторы ёсьць на небе, хай сьвяціцца імя Твае, хай будзе воля Твая...

Дзіця. Дзеду! а куды мама падзелася?

Дзед. Ня ведаю, хлопча, ня ведаю! [illegible] падзелася... Мамка вернецца,—а ты сьпі. [illegible] будзе Воля Твая, як на небе, так і на зямлі.

Дзіця (*ізноу кладзецца*).

Пауза.

Дзіця (*пачынае ціха плакаць-хніпаць*).

Дзед. Чаго-ж ты ізноў? Ціха, ня плач..

Дзіця. Я баюся! Дзе мама?

Дзед. Ну, вось яшчэ чаго! Такі вялікі хлапчуга, а плача, як дзіця. Ня плач, бо прыйдзе вось лясун і пацягне ў лес. А ў лесе, вось [illegible] страх! Дрэвы трашчаць, грымоты грымяць, [illegible] дождж, сьцюжа, бліскаюць маланкі і [illegible] на траве кроў...

Дзіця (*раптам*). Дзеду! Чыю кроў? Панскую?

Дзед. Вось дурны! Скуль-жа панскую! [illegible] й ляўнічые ў лесе палююць, птушак ды розных зьвяроў страляюць—вось і кроў. (*Чутно стук у дзьверы*).

Дзіця. Дзеду! дзеду! чуеце? нехта стукае. О, гэта мусі прыйшоў лясун! Дзеду, я баюся!

Голас (*за сцэнай*). Адчыняй! пусьці!
Дзед (*ідзе да дзьвярэй*).
Дзіця (*спалохаушыся*). Дзеду! не адчыняйце, не адчыняйце!—я баюся.

ЗЬЯВА 8-ая.

Ты с-ж і Апанас з Аксанай.

Аксана (*вышаушы з бакоукі*). Што там-ака? Хто гэта?

Дзед. Панскіе людзі прыйшлі... (*Хоча адчыніць дзьверы*).

Апанас. (*Хватае стрэльбу, відаць, што ен танна сваю галаву не аддасьць*).

Заслона.

(*Канец*).

---

# Абразкі з жыцьця Палесься.

## 1. У родную старонку.

Ну, ось сяк-так мы ўбіліся ў вагон, і праз хвілін дзесяць наш цягнік засьвістаў, крануўся з месца і загрухацеў жалезнымі коламі па рэйках. У вагон скрозь шыбы мігнулі апошніе ліхтарні стрэлак, цягнік вырваўся на роўны шлях, весялей неяк загудзеў ды шпарчэй пацягнуў за сабою вагоны. Та, та-та та—так! стукаюць колы, а пад гэты мэлёдыйны гук клоніць галаву нейкая салодкая драмота... Я гляджу скрозь шыбу вагоннага вакна, стараючыся хоць што-небудзь угледзець, але нічога ня відаць, толькі іскры мігаюць, як бягучые зоркі. Нясецца цягнік і нейкі страх сьціскае грудзі, становіцца жутка і думка родзіцца ў галаве: а што, як сарвецца ён з рэйкі, ці лопне коло?.. Збаві нас, Божа!..

— Ваш як панёс!—сказаў нехта з людзей.

— З наклону,—паясьніў, мусі быць, чугуншчык.

— Накручывай Гаўрыла!—дакінуў нехта, і некалькі галасоў зарагаталі.

Але ноч ужо за сьценамі вагону і сон адалявае кожнага: хутка, скрозь грук колаў, прарываецца храп сьпяшчых людзей... Заснуў і я, чуў, адно, з прасоньня, як цягнік астанаўліваўся, гудзеў, сноў ляцеў і нёс мяне туды, гдзе душа і думка ўжо былі даўно...

— Уставай! — будзіў мяне мой сябар,—ужо прыехалі ў О.

Я адчыніў вочы... Сонцо ўжо сьвяціло і прыемная цеплата ішла ад яго. Хутка мы вылезьлі з вагону дыхнуць вольнага паветра, якое поўнымі грудзямі ўцягівалі ў сябе пасьля душнага і пыльнага вагону. Ужо быў поўдзень, калі мы крануліся з О. на другім цягніку. У вагоне не хацелося сядзець і мы ўвесь час стаялі на «плашчадцы». Па абедзьвух старонах дарогі мігалі лугі, лясы, балоты, а далей раптам пацягнуўся густы хваёвы лес. Лес, лес і лес... Здаровы сасновы дух дурманіў галаву, сэрцо у грудзёх білося радасна, а думка ўжо казала, «пачакай, гэта што! Ось хутка-хутка пакінеш цягнік, мінеш вёскі і паедзеш ужо на капі па знаёмай грэблі»...

Ляці-ж хутчэй, цягнік! Ляці!..

Праз гадзін дзьве мы вылазілі на станцыі гораду С. Заехалі у заезны двор. Тутака я разлучыўся з сваім сябром, а на другі дзень, раніцай, выехаў фурманкай з гораду.

## 2. Фурманкай далей.

Вось мінулі апошніе хаты гораду і конь, пачуўшы пад капытамі замест цьвёрдых каменьняў мягкую зямлю, весялей пабег і прад вачамі замест брудных хат пацягнулося поле, а на ім прыветным каўром зелянела рунь... Удалі паказаўся лес. Сэрцо радасна закалацілося і я пачаў прасіць свайго вазьніцу, каб ён хутчэй паганяў каня.

— Што гэта вам так няцерпіцца? здаецца усяго пяць вярстоў ад гораду ад'ехалі,—сказаў ён, павярнуўшы да мяне галаву і зьдзіўленна гледзячы на мяне.

— Ось, бачыце, лес я угледзеў, дык страшэнна захацелося барджэй апынуцца сярод яго,—адказаў я яму.

— А вунь яно што!—усьмехваючыся сказаў ён: гэта праўда, у лесе неяк прыямней ехаць і вецер не такі, ды і птушкі ужо добра пяюць...

— А ўжо прыляцелі?—спытаў я.

— А ўжо з тыдні тры, як граюць,—адказаў ён.

— А вы, дзядзенька, самі з якой вёскі?—запытаўся я свайго вазьніцу.

— Я з Працавіч,—адказаў ён, махнуўшы пугай на каня.

— З Працавіч? вось яно што! дык вы мусіць Уласа ведаеце?—запытаў я.

— А як-жа ж... А вы адкуль яго ведаеце? мо з нашых краеў?—зірнуўшы на мяне, запытаў ён.

— Не, дзядзька, я трохі далей, але-ж ведаю адсюль шмат жыхароў...

— Та-ак!—працягнуў ён,—але ось цікава: мне нешта усё здаецца, што я негдзе вас бачыў,—глянуўшы на мяне, адказаў ён,—ці ня былі вы калі у Пясчанцы?

— Быў,—адказаў я, гледзячы на яго і стараючыся прыпомніць: мне нешта пачынала здавацца, што я недзе бачыў гэтага чалавека. Па хвілі я прыпомніў Пясчанку і некалькі жыхароў, з якімі я меў дачыненьне.

— Ці ня будзеце вы, пане, Ярэм Прахорчык?—задаў я яму пытаньне.

Той зьдзіўленна глянуў на мяне і нерашуча адказаў:

— Так, я самы і ёсьць Ярэм Прахорчык...

— Ну, вось бачыце, я вас прыпомніў, пане Ярэм, цяпер чарод за вамі,—радасна сьціснуў я яму руку, здаволены, што спаткаў даўно знаёмага чалавека, з якім прыдзецца праехаць ня малы лік вярстоў.

— Га, ну, цяпер і я прыпомніў! Дык вы той самы, што улетачку 12 году былі у нас, калі мы капалі канаву праз балоты?...

— Так, так, я!—сьмяючыся сказаў я, гледзячы на яго зьдзіўленые вочы.

— Ну і бывае часамі здарэньне на Божым сьвеце! Ніколі ня даў бы веры, каб хто тады сказаў, што ось з гэтым чалавекам зноў спаткаемся,—закончыў ён, паціскаючы плячыма.

І тутака пачалі мы з Ярэмам гутарку аб усім. Гамонячы, мы і не заўважылі, што ўжо цэлую гадзіну, а мо і болей, едзем лесам.

— Э, дык мы ўжо у лесе!—радасна гукнуў я,—а я і не заўважыў.

— Даўно!—адказаў усьмяхаючыся Ярэм.—Ды ось, калі ласка, пагуляйце трохі у ім, а я затрымаю каня, хай адпачыне, бо за тым дубком, што відаць, пачнецца грэбля,»—закончыў ён гутарку і падкінуў каню сена. Я зьлез з воза і пайшоў у самы гушчар лесу.

Ціха было ў лесе. Вялікіе сосны глядзелі зялёнымі шапкамі ў небо, чуць чуць калыхаліся і аб чымсь шапталіся паміж сабой. Панура глядзелі ёлкі, колючы вострымі шпілямі паветро: жаласна пішчэла нейкая птушка, седзячы недзе на галіне. Магільным холадам нясло з гушчы маленечкіх ёлак і сасон, якіе, як дзеці, туліліся да вялікіх дзеравоў... А ўсё-ж маё сэрцо радасна білося і хацелося засьпяваць прыветную песню лесу, хацелося расказаць усю жальбу душы, усю нуду—бо мне здаецца, толькі ён, ён разумны лес, разумее цяпер чалавека....

## 3. Хаўтуры.

Коцяцца драбінкі з бервяна на бервяно па грэблі, ціха шуміць лес, наганяючы сон на чалавека; слухаючы шум гэты, я пачаў няпрыкметна засынаць. Здаецца мне, што еду я па моры і кідае карабель на хвалях у розные бакі, здаецца, разьляціцца ён у кавалкі і паляту я няведама куды... Раптам чую нейкі прыемны гук, які няведама адкуль ляціць і так жаласна ные у вушох... Бім, бом, бом!.. плачуць недзе званы, і я адкрываю вочы... Лес адышоў кудысь назад, а замест яго бачу невялічкую вёску у баку і царкву, з званіцы якой лятуць жаласные хаўтурные пералівы. Вось і могілкі, а на іх—невялікая кучка людзей, паміж якімі сьвежы насып зямлі, а на насыпе—белая труна....

— Стой!—кажу я свайму фурману і саскочыўшы з воза, іду у вадчыненую браму кладзьбішча. Падходжу да сьвежай магілы, куды ўжо пачалі апускаць труну.

— Татачка, родны, міленькі! чаму ты не бярэш мяне з сабой?—пачуўся енк.

Я зірнуў туды, адкуль ён з такою больлю пачуўся, і ўгледзеў я дзеўчыну з доўгай зьбітай касой. Чырвоная хустка ляжала на плячох, а рукі закрывалі твар і скрозь пальцы капалі, як град, сьлёзы... Шчаміў душу нейкі боль, і хацелося прытуліць плачучую дзяўчыну да сэрца і цёплым словам асушыць яе сьлёзы...

— Міленькі татачка!—плача дзяўчына, а званы ўсё гудуць: бім, бом, бом! Дзіцячы хор пяе апошняе «вечная памяць», людзі кідаюць па тры жмені зямлі у магілу, зямля глуха барабаніць на веку труны, спачатку мацней, а потым усе цішэй і цішэй... А дзяўчына ўсё плача і плача: ось аднялa рукі ад твару, заламала іх і упала на зямлю...

Божачка справядлівы! Ніколі я ня бачыў такіх дзіўных вачэй, у якіх магчыма было-б прачытаць, як на паперы тую нуду, якую паняць можа толькі той, хто меў горо... Плача дзяўчына, гудуць званы, а лес здалёку глядзіць і, здаецца, шэпча дзяўчыне: ня плач, дзяўчына, ня плач, краска мая!.. Глянь на мяне, глянь на небо! Ці можна плакаць, калі так сонцо радасна сьмяецца, калі яго праменьні так ласкава цалуюць твае вочкі, калі пяюць весела птушкі, калі вясна нясе свае цудные мары...

Засыпана магіла, адно толькі насып невялічкі застаўся ад усяго жыцьця чалавека...

— Татачка родненькі!.. Божа справядлівы, навошта Ты сьмерць паслаў на зямлю?..

Разышоўся народ, засталася толькі ля насыпу і белага крыжа дзяўчына і нейкі хлопец гадоў з 19 ды я.

— Родненькі мой, галубочак!—забіваецца у плачы дзяўчына, а хлопец стаіць і ня ведае, як памагчы гору...

Нічым не паможаш, браце! у горы гэтым чалавек не дапаможа... Зьняў я шапку, паражагнаўся і пайшоў да воза...

Вось мінулі вёску, зноў стукаюць колы па грэблі і шэпча сваю казку нам стары лес, зноў сонцо радасна сьмяецца і птушкі пяюць..., а там недзе плача на сьвежай магіле дзяўчына...

## 4. Хутар Базыля.

Ужо сонцо хавалося за вярхі соснаў, калі з глыбіні лесу пацягнуло холадам і даволі халодны вецер загуляў у павэтры.. Праз якіх тры вярсты кончыўся лес і мы апынуліся каля невялічкага хутару.

— Ну, вот і сяліба Яўхіма Базыля,—сказаў Ярэм, зварочваючы каня з грэблі праз масток і пагнаўшы па напрамку брамы па чуць прыкметнай сьцежкцы.. Яшчэ хвіля і мы ўехалі у двор: з хаты вышаў на сустрэчу нам высокі чалавек з сівой барадой у вялікай бараняй шапцы.

— Ну, Яўхім прымай гасьцей!—весела гукнуў Ярэм і прывітаўся з хутаранцам.

— Калі добрых, дык міласьці просім,—адказаў Яўхім, памагаючы мне зьлезці з воза.—Калі ласка, ідзеце ў хату, а мы ўсе вашые рэчы прынясём з Ярэмай,—сказаў ён, праводзячы мяне ў сені.—Франя!—гукнуў, ён—адчыні дзьверы! А то мо' вы і ня патрапіце адны ў хату.

Праз хвілю ў сянёх скрыпнулі дзьверы і выйшла даволі прыгожая дзяўчына.

— Ось. правядзі іх у хату,—зьвярнуўся гаспадар да яе.

— Калі ласка!—мягкім ціхім голасам запрасіла яна мяне і прапусьціла наперад, зачыніўшы дзьверы хаты.

Я апынуўся у той самай хаце. у якой дзевяць гадоў таму назад быў... Цікава, ці пазнае мяне гаспадар? І як зьмяніло яго жыцьцё! Тады ён быў з чорнай барадой... Але ма[illegible] увайшоўшые ў хату Яухім і Ярэма.

— Ну, ось, дзякуй Богу, вы зноў да нас... Гэта добра, а то тутака хлопцы даўно казалі, што бачылі вас у вялікім Выжары прошлым летам, а да нас такі вы і не зьвярнулі,—адазваўся Яўхім, падаючы мне руку.

— Бачыце ня было часу,—адказаў я, вітаючыся радасна з ім і з усей сямьёй.

— Ну, Франя, ці памятаеш іх?—запытаў ён у дачкі. Памятаеш, як у 11 годзе улетку яны ў цябе ягады купілялі? Ты малая тады была, гадоў восем мела... А цяпер, бачыце, хоць пад вянец,—зьвярнуўся ён да мяне, паказваючы на дачку.

Ды час ляціць, згадзіўся я з яго думкай вось і вы пасівелі...

Э, што я? усё пасівело за гэты час! навет лес ня тые ўжо казкі кажа, ня тые песьні пяе,—

адказаў, махнуўшы рукой.—Ну, давайце вячэру!—скамандаваў ён.

Хутка на стале задымілася зацірка і смачная пара паплыла ад яе. Уселіся мы за стол, добра пад'елі дый троху, каб не зграшыць, выпілі добрай самагонкі.

— З дарогі ня шкодзіць, казаў Яўхім, наліваючы чарку.

Павячэралі ды і пачалі гутарку, а пагутарыць было аб чым. Столькі гадоў ня бачыліся! Ужо пачынала добра цямнець, калі Франя прынесла сена і зрабіла для мяне і Ярэма добрую пасьцель... Але спаць яшчэ не хацелося і я вышаў з хаты.

*(Працяг будзе)*

**Дзяргач.**



## Беларускі Дом у Менску.

У гэтым будынку адбываліся пасяджэньні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, пачынаючы ад 1918 г.

Цяпер у ім памяшчаюцца: Бел. Нац. Камітэт, Бел. Школьная Рада, Кнігарня, адбываюцца курсы беларусазнаўства, Тэатральная Камісія, Выдавецкая Камісія і інш. камісіі пры «Б. Н. К.», Рэдакцыя і адміністр. газ. «Беларусь» і адміністрацыя часоп. «Рунь».

# СТЫЛЬ.

Думаючы аб індывідуальнасьці кожнага чалавека, або ўсяго народу, заўсёды аджывае перад маімі вачыма ўспамін з дзіцячых гадоў.

У нашу глухую вёску прывалокся аднаго разу кніганоша-маскаль. Ен прадаваў розные лубачные кніжкі, казкі, песеньнікі, эвангельлі, крыжыкі, малюнкі і абразы. І вось памятаю адзін з яго абразоў:

Над чыста расійскім краябразам узносіцца ў небо на вогненых конях прарок Ільля. Я тады вельмі дзівіўся з выгляду біблійнага прарока. Твар Ільлі быў чырвоны, круглы, вочы блакітные, масьляные, а барада густая і доўгая—натуральны кацап пасьля шчырай гарбатняй пачастушкі. Гэтага прарока я сабе прадставіць ня мог.

Ужо праз колькі гадоў пасьля гэтага я зразумеў прычыну: у грубай карыкатуры выявілася індывідуальнасьць і азнакі нацыі прымітыўнага аўтора, які намаляваў сьвятога прарока з свайго натуршчыка-ідэялу. Такі тып яму мазоліў вочы на кожным кроку ў Маскоўшчыне—іначай і быць не магло. Маляр выявіў сваю душу, сваю індывідуальнасьць вельмі ярка. А каб да гэтага ён быў яшчэ добрым, адухатвароным мастаком, дык тады маскоўскі облік зусім не перашкодзіў-бы выгляду Ільлі прарока.

Прыглядаючыся да твораў клясычных майстроў, так сама знаходзім выяўленьне ўласнага тыпу. Вялікі Рафаэль маляваў сьвятую Мадонну з сваей укаханай, маладой італьянкі, аднак гэта не замінае набожным людзям шчыра маліцца перад ёю.

Здарылося мне так сама бачыць Матку Божую тыпічнай украінкай, навет ў украінскіх вопратках і я зразумеў, што гэта работа украінскага богамаза.

У Беларусі па вёсках часта здараецца, бачыць дзэўляную фігуру Хрыста, каторы адразу напамінае беларускага селяніна. Так сама відзеў я на аднэй выстаўцы трох цзеваў хрысьціянскіх цнот, беларускага рэзьбярства. Гэтые цноты былі натуральнымі вясковымі бабамі.

З сьвятых італьянскай работы часта глядзіць бог Эльляды, Апольлё, якога стара-клясычные майстры увекавечылі на марм·ры з ідэяльна-сымэтрычнага цела юнака-афінца, які на Олімпійскіх гульнях добра разьвіў сваю мускулатуру і аздобіў лініі свайго цела.

У „Энэідзе" Катлярэўскага багі і багіні апісаваюцца чыстакроўнымі казакамі і казачкамі, каторые выбіваюць «Гапак» украінскі ў добра вымазаных дзёгцем, падкованых чобатах. Каб «Энэіда» і ня была напісана у чыста гумарыстычным тоне, дык усё роўна ў гэтым творы адбілася-б украінская душа, украінскі стыль.

Так сама і ў беларускім творы «Тарас на Парнасе» Вэнэра «задам мелець», як тутэйшая вясковая баба.

Кожны чалавек, кожны народ малюе сабе Бога, рай, сьвет пасвойму. Фантазьюе, думае, гаворыць і жывець пасвойму.

Выбражэньне Хрыста можна дзяліць на эпохі, народы і клясы: Хрыстос першых рыбароў, рымскіх часоў, інквізытараў, пустэльнікаў, крыжакоў, багатага і беднага чалавека і г. д.

Адзін ад аднаго вельмі розьніцца.

У беларускіх народных казках Бог і яго сьвятые малююцца няхітрымі, добрымі мужычкамі, для якіх сяляне ахвяроўваюць свае няхітрые, шчырые малітвы.

На ўсё акружаючае, на ўсё абстрактнае кожны чалавек, кожны народ глядзіць сваймі вачыма. Напрыклад, царство нябеснае кожным рэлігійным вызнаньням іначай прадстаўляецца: ёсьць рай, хрысьціянскі, жыдоўскі, магомэтанскі, брамінскі і г. д.

Вось гэтае асабістае прадстаўленьне кожнай адзінкі ёсьць **стыль**.

Стыль выпрабляецца цэлымі тысячалецьцямі і крок за крокам робіцца ўсё болей яўным і рэльефным.

Беларускі стыль вытвараўся ўжо на нашай зямлі даўным-даўно. Нашые богамазы на свой асабісты, тутэйшы лад, малявалі сьвятые абразы. Нашые летапісцы па манастырох пасвойму выводзілі загалоўные літары з орыгінальнымі узорамі—орнамэнтамі. Слуцкіе ткачыхі-нявольніцы, як іх ні ламалі ткаць залатые паясы ў фантастычна-багатых пэрсідзкіх узорах, а яны, хоць дзе ў куточку выводзілі сваю родную, мілую краску—васілёк.

Нашые капліччкі будаваліся на тутэйшы лад. Нашые песьні сьпяваліся іначай, чым у іншых. Нашая мітолёгія розьніцца ад іншых. Нашые хаты будаваліся на свой манер. На нашых пасудзінах і рэзьбярстве, тканінах і паясох выводзяцца свае ўласные ўзоры. Мы жывём, думаем, гаворым і выяўляем сваю творчасьць ня так, як іншые. Гэта і ёсьць наш беларускі стыль.

Абхопліваючы ўсё гэта, наша народная душа, наша індывідуальнасьць малююць цэльны, вялікі абраз нашага народу.

У нашай асабістасьці—наша вартасьць.

Мы павінны ва ўсіх праявах жыцьця паказаць склад сваей душы—свайго Хрыста. Калі мы выявім свой арыгінальны беларускі твар, тады большую увагу зьвернуць на нас чужые і пачнуць нас болей цаніць.

Цэлымі вякамі наш народ жыў сярод магнейшых народаў забыты і пакінуты, як запыленая кніга ў вялікай бібліятэцы.

Мы самі толькі нядаўна пачалі заглядаць у сваю ўласную кнігу. Пачалі пераварачаваць пэргамэнт за пэргамэнтам і цэлые скарбы заблішчэлі. Бязьмежнасьць народнай поэзыі з новымі складамі рыфмаў, рытмікі, абразамі, зраўненьнямі, з сваім складам выразаў, фарбаў і пераліваў. Размаітасьць народных мэлёдыяў, мітычных казак. Народная мудрасьць жыцьця ў загадках, прыказках, пагаворках. Асабістае выяўленьне нашага жыцьця ва ўсіх творах мазолістых рук, ва ўсіх містэрыях роднага быту, ва ўсіх звычаях, гульнях, смутках і радасьцях гадавога кола селяніна.

Заданьнем беларускіх культурных працаўнікоў павінна быць выяўленьне нашага стылю. Трэба паказаць багацтво і разьмаітасьць беларускай душы з усіх бакоў, ва ўсіх яе формах і аздобах.

Тады толькі выйдзе поўны, характарны самабытны беларускі абраз.

Нашые пісьменьнікі, композытары, маляры павінны чэрпаць сваю творчасьць з сьвежай крыніцы народнай душы. Шліфаваць неаброблenae, адсуваць застарэлае, апрацоўваць пачаткі і насеньні народнай творчасьці і тварыць—тварыць.

Тысячы нашых народных пэсьняў і легэнд чакаюць поэтычнага пяра. Містычные, багатые абразы чакаюць кемнага пэндзаля.

Нашай мэтай павінна быць--адраджэньне нашага мастацтва, нашага стылю, бо мы стаім па горла ў вадзе і просім піць.

**З. Бядуля.**

Проф. Е. Карскі.

# Беларускі пісьменьнік-народнік А. Р. Пшчолка.

Сярод сучасных беларускіх пісьменьнікаў зусім асобнае месцо займае Аляксандар Раманаў Пшчолка, каторы выйшаў з Вітэбскай вёскі і пачаў сваю размаітую дзеяльнасьць у вёсцы, ў сваёй бацькаўшчыне. Скончыўшы духоўную сэмінарыю, ён быў і настаўнікам народнай школы, і паслушнікам у манастыры, і дзяком; пасьля ўжо (у 1900 г.) папаў у Юраўскі унівэрсытэт, дзе і скончыў юрыдычны факультэт. Да вайны ён быў міравым судзьдзёю, а дзе ён цяпер знаходзіцца—няма ведама.

Талент Пшчолкі чыста гумарыстычны. Дзеля гэтага ён аглядае жыцьцё беларускай вёскі—сказалі-б мы славамі Гогаля—„сквозь зримый міру слух и незримыя и невѣдомыя ему слёзы“. Пісьменьнік-этнограф, выпускаючы свае твары, мае на мэце ня столькі чытача з простага люду, сколькі з сярэдняй вясковай інтэлігэнцыі, да якой у свой час належаў і ён сам, і наогул асоб адукаваных, якіе цікавяцца бытам нашага селяніна. Дзеля гэтага некаторые яго апавяданьні напісаны на расійскай мове і толькі ў іх уведзена, як і у іншых пісьменьнікаў—народнікаў, пачынаючы з „записокъ Охотника“ Тургенева, маса народных слоў і выразаў. Есьць у Пшчолкі апавяданьні і на чыста беларускай мове. Па той-жа прычыне, каб яго апавяданьні былі болей зразумелы інтэлігэнтным чытачом, мала знаёмым з беларускай мовай, у яго ня вытрымліваецца дзеканьне і цеканьне, а ўсюды толькі мягкіе *д* і *т*. Паміж іншым, аснову для такога ужываньня Пшчолка меў і ў мясцовай мове, якая ня так моцна дзекае, як у другіх мясцох Беларусі, галоўным чынам, на захадзе. Калі ня прыймаць пад увагу вышэйсказаннага дык можна падумаць, што аўтор мала знаём з беларускай мовай, або сумысьле стараецца падрабіць яе пад расійскую мову, але гэта ня так. Гэта я ад'значаю з асобнай мэтай, каб не ўвясьці чытача ў памылку, што здарылося з адным з беларускіх крытыкаў—Лявонам Гмыраком (Вялікодная пісанка 1904—1914, стр. 18).

Большасьць апавяданьняў Пшчолкі зьявілася на шпальтах „Витеб. Губ. Вѣдомостей“, дзе ў свой час друкаваў цікавые стацьці аб беларускай этнографіі Н. Я. Нікіфароўскі. Гэтые стацьці Пшчолкі часткай былі дадзены і асобнымі адбіткамі, некаторые з іх былі злучаны пасьля ў зборніках „Очерки изъ бѣлорусской деревни“ (Витеб. 1899 $8^0$. 133), „Бѣлорусскіе разсказы“ (Вит. 1901, $16^0$. 30), „Янкина жалоба“ (В. 1902, 2 выд. $16^0$. 19)—драматычны нарыс, „Тимково весельле“ (В. 1901, $16^0$. 141), „Городъ и деревня“ (В. Г. В. 1905, № 51), „Очерки и разсказы изъ жизни Бѣлоруссіи“ (Вит. 1910, $8^0$. 126). Ен-жа напісаў верш „Чаровница“ („Крестьянинъ“ 1907, 783—787), які пачынаецца славамі:

Отъ чаровницы дѣвацца намъ некуды...
Боже нашъ, Боже нашъ... Что за напасть?!...

Есьць і некаторые другіе драбніцы, зьвязаные з імям Пшчолкі. Для нас у гэтым выпадку асабліва цікавы тыя стацьці і апавяданьні, якіе напісаны чыста па беларуску, або дзе большая часьць слоў—беларускіе. Пакажам іх у тым парадку, як яны друкаваліся.

1. „Свидѣтель" (В. Г. В, 1898 № 4, і „Очерки" I) — гэта ёсьць невялікі монолёг, сьведчаньне беларуса на судзе. Аўтор паказаў глыбокае знаёмство з духоўным складам простага вясковага беларускага селяніна, каторы ня можа апавядаць складна аб самых важных фактах, а гавора розные драбніцы, якіе ня маюць нічога супольнага са справай і носяць толькі чыста прыватны характар. Вось пачатак гэтага монолёгу:

„Я, паны судьи, дэйствительно быў свѣткой, як Тарасенка на Кузуркиным вяселли побили. Во як гэта было. Ти то въ сераду, ти то во вторыкъ передъ Меньшей Пречистой устала мая Хадора нѣшта дужа рана и крычыть Базылю: иди батьку буди бо ўжо другіе пѣтухі піяли. Чую я ўзлѣзъ Базыль на палати и тянить зъ мяне худышку (рваный армякъ). Ня доўга думаўши, соскочиў я долоў, надѣў смазные боты, Богу троху помолиўся и прихинуўся къ застоллю. Баба моя поставила на столъ миску сырапони (простокваши) и принесла блинъ. Насилкўваўся я и стаў надиваца" і г. д.

Гаворано аб розных спатканьнях, і інш., якіе не адносяцца да галоўнай справы. Што тычыцца дракі, дык аб ёй ані слова, паказаны толькі повад да дракі*).

2. „Въ губерню съ бумагой" (В. Г. В. 1899 № 48 и „Очерки", 56)—прыгожы абразок з жыцьця забітага, цёмнага беларуса. Усё ў горадзе яму здалося дзіўным і надзвычайна цікавым, ўсё прыраўнівалося да яго вясковага абыходу. Беднаму селяніну і не ўдалося падаць просьбы з якой прыехаў ён у незнаёмы горад. Ен ледзьве не папаў у халодную, але „добрый начальникъ", бачачы яго прастату і адсутнасьць благой думкі, адпусьціў яго да хаты.

3. „У тіятри" («Очерки», 104)—як селянін—беларус папаў ў тэатр, сцэна на манер апавяданьняў Гарбунова. Цікава адмалёвана абстаноўка тэатру, музыка ў аркестры, ігра на сцэне і г. д.

4. Яшчэ дасьціпнае апавяданьне «Панское игрище» („Белорусскіе разсказы").

Малады паніч, апрануўшы ў панскіе вопраткі селяніна, ўзяў яго з сабой на баль у клюб, вазіў па ўсіх пакоях і паказаваў, чым займаюцца паны. Селянін вельмі спрытна сьмяецца з іх.

5. „Сидорова родня"—у гутарцы аб сваякох робіцца характарыстыка ўсіх сваякоў і знаёмых, пры чым, дзеля падробнасьцяў нельга было дайсьці да самага важнага.

6. „Бильярдъ въ деревнѣ". Селянін, каторы пабываў ў горадзе і бачыў гульню на більярдзе, паказавае яе ў вёсцы на звычайным стале, замяніўшы кулі бульбамі а кій—чапялою. Зьмест камічны.

7. „Янкина жалоба" — драматычны абразок. Паказаны валасны суд, гдзе пісар за ўзяткі бароць вінаватага, а невінаватага навет пасадзіў пад арэшт. Судзьдзі і старшыня ня маюць ніякага значэньня.

8. «Индыки» («Очерки и разсказы)—гумарыстычнае апавяданьне аб тым, як селянін нёс індыкі ад аднаго пана у падарунак другому і па дарозе ў карчме аднаго індыка прапіў. Прыкінуўшыся дурным, хацеў ашукаць таго пана, якому прынёс індыкі.

Такіе самые і іншые апавяданьні: «Изъ жизни лепельскихъ крестьян». «Бобылкино горе», «Канитель».

У большасьці Пшчолка пісаў апавяданьні на расійскай мове з масаю беларускіх слоў і выразаў. Усе яны вельмі цікавые па свайму зьместу і складна напісаны. Маюць такі самы гумарыстычны дух, але кпінкаў з беларуса нігдзе няма. У некаторых з іх гумар чуць прыкметны. Вось перад намі «Микитавы хаўтуры» («Очерки и разсказы» и паасобку); у апавяданьні ёсьць толькі прычытаньні па беларуску, ды дзе-ня-дзе асобные словы, а між тым як прыгожа адштрыхаваны апошніе дні і гадзіны жыцьця на зямлі беднага ратая! Як проста і ў той-жа час ў такіх моцных фарбах паказана любоў дачкі да бацькі, якая паводле беларускіх звычаяў абавязкова павінна аплаківаць свайго памёршага радзімага! Як урэшце рэльефна паказана пагубная неразлучнасьць простага чалавека з гарэлкай, без якой нельга навет і хаваць яго!

Пры выніку ўсяго сказанага можна бачыць, што дзеяльнасьць Пшчолкі зусім адпавядае духу беларускага народу, каторы ня без гумару адносіцца да розных жыцьцёвых зьявішч. Жывасьць апавяданьня у Пшчолкі прыахвочавае іх чытаць і дапамагае распаўсюджаваньню. Дзеля гэтага шмат з іх, ня гледзячы на тое, што спачатку друкаваліся ў газэтах, ужо выйшлі некалькімі выданьнямі.

*) Цікава параўняць апавяданьне на тую-ж тэму Бурачка (Ф. Вагушэвіча). «Сьведка» («Н. Н.» 1907 № 9).

*Рэдактар—ЯНКА ЛУЦЭВІЧ.*
*Выдавец—ВАЦЛАЎ ІВАНОЎСКІ.*

## Ад Рэдакцыі „Рунь".

Рэдакцыя «РУНІ» шчыра просіць сваіх чытачоў і прыхільнікаў прысылаць ей фотографіі і рысункі беларускіх тыпаў, весак, двароў, замчышчаў, мястэчак, гарадоў, гістарычных памятнікаў, а так сама—фотографіі беларускіх нацыянальных гурткоў, сходак, кірмашоў, аматорскіх беларускіх тэатраў і г. д. Кожная фотографія ці рысунак павінны мець апісаньне: дзе калі і кім зроблены (ці сабраны), а так сама назву мясцовасьці і тыпаў (якой губэрні, павету, воласьці).

Усе прысыланае, на надрукаваньні у «РУНІ», будзе з вялікай падзякай зьвернуто уласьнікам.



Дазв. вайсков. цэнзуры. 16-5-1920 № 315. Менск, Друкарня Я. Грынбляга, Францішк. 32